


**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг. Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 45 (275) — Нядзеля 6 лістапада 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9


# Савецкі наступ на Сярэдні Усход

**Пачалася трэйцяя фаза халоднае вайны**

Сяньня зьяўляемся навочнымі сьветкамі стварэньня Саветамі новага фронту халоднае вайны, якая, ня гледзячы на ўяўнае «жэнэўскае адпружаньне», нядаўна ўвайшла ў сваю трэйцюю фазу, ня менш грозную за папярэднія.

У першай фазе галоўны савецкі наступ быў накіраваны супраць Заходняй Эўропы. Важнымі эпізодамі гэтага наступу была поўная саветызацыя сатэлітных краінаў сярэдня-ўсходняй Эўропы, камуністычнае паўстаньне ў Грэцыі з мэтаю вырваць гэтую важную із стратэгічнага гледзішча краіну з пад заходніх уплываў, загроза з гэтай-жа мэтай Турэччыны, а кульмінацыйным ягоным пунктам — блякада Бэрліна ў 1948 годзе. У выніку — усе сатэлітныя краіны поўнасьцю падпарадкаваныя маскоўскаму цэнтру, а актыўная й патэнцыяльная апазыцыя ў іх зьнішчаная безаглядным фізычным тэрорам. На гэтым адрэзку фронту Саветы дасягнулі поўную перамогу, затое ў Грэцыі й заходнім Бэрліне напаткаліся на становучы супраціў Захаду й былі змушаныя адступіць, нічога не здабыўшы, але й нічога ня страціўшы.

У другой фазе савецкі наступ быў скіраваны на Далёкі Усход, а ягонымі галоўнымі этапамі была разьдзьмуханая ў 1950 годзе Саветамі рукамі паўночных Карэйцаў і Кітайцаў Карэйская вайна, пасьля ейнага заканчэньня — вайна ў Індакітаі і, напасьледак, прыгатаўленьне кітайскімі камуністымі да інвазіі Фармозы. Як ведама, на гэтым фронце камуністыя дасягнулі яшчэ большых пасьпехаў, чымся перад гэтым у Эўропе.

Сяньня, у пачатку трэйцяй фазы халоднае вайны, савецкі наступ накіраваны на Сярэдні Ўсход, стратэгічнае значэньне якога мае выняткавую важнасьць, а запасы ягоных нафтавых багацьцяў найвялікшыя ў сьвеце. Трэба адцеміць, што савецкая экспансія ў кірунку Сярэдняга Ўсходу зьяўляецца аднаўленьнем і далейшым прадаўжэньнем традыцыйнай імпэрыялістычнай палітыкі царскае Расеі, якая ў мінулым стагодзьдзі ўсьцяж імкнулася здабыць там свае ўплывы коштам нарушэньня манаполю Вялікабрытаніі на гэтай тэрыторыі.

**Савецкае аружжа для арабскіх краінаў, загроза Ізраэля і амэрыканскіх базаў**

Пачалося цяпер ад заключэньня дагавору між Эгіптам з аднаго боку і Савецкім Саюзам ды Чэхаславаччынай з другога на дасгавы ў Эгіпт чэхаслацкай мадэрнай зброі. Згодна апошніх паведамленьняў, у эгіпскі порт Александрыю ўжо прыбыло 6 савецкіх караблёў і тры далейшыя караблі ў дарозе з аружжам з Чэхаславаччыны, на якое складаюцца танкі й зьнішчальныя дызэльныя самалёты МІГ-15. Паінфармаваныя колы цьвердзяць, што Эгіпт мае атрымаць ад Саветаў 6 падводных караблёў. Апрача гэтага, Саветы заключыні ўмову на дастаўку аружжа ў іншыя арабскія краіны, як Сырыя, Саўды Арабія і Лібан, а сьвежыя весткі гавораць, што і урад Афганістану пастанавіў выслаць вайсковую місію ў Чэхаславаччыну для азнаямленьня з мадэрным чэскім аружжам. Савецкі Саюз узяўся збудаваць на свой кошт грэблі на Нілі ў Эгіпце і на Ёрдане ў Сырыі. У сувязі з гэтымі пабудовамі і дастаўкамі навачаснага аружжа, дагэтуль ня ўжыванага ў арабскіх краінах, на тэрыторыі апошніх хутка паявіцца цэлая армія савецкіх тэхнікаў, інстуктароў, вайсковых экспэртаў, перакладальнікаў і інш. Ня цяжка дадумацца, што галоўным іхным заданьнем будзе паглыбленьне савецкай пэнэтрацыі на гэтай тэрыторыі й замацаваньне маскоўскіх уплываў. Варта адцеміць і тое, што Саветы прадаюць Эгіпту аружжа па вельмі нізкіх цэнах, якія становяць толькі пятую часьць нармальнай цаны, пры чым заплату атрымліваюць пераважна ў натуры — эгіпскай бавоўнай і рыжам. Далейшай сэнсацыяй ёсьць весткі, зьмешчаныя ў артыкуле ведамых амэрыканскіх журналістых братоў Эльзоп, што Саветы прыгатаўляюць палітычна-гандлёвую афэнзыву — у тым стылю, што й на Сярэднім Усходзе — і ў Паўдзённай Амэрыцы. Амэрыканскі ўрад атрымаў інфармацыі, што Саветы запрапанавалі Пэру, Эквадару й Мэксыку дастаўляць ім сваё аружжа і што падабную прапанову маюць зрабіць і Бразыліі.

Каб зразумець усю камплікацыю палажэньня, выкліканую савецкімі даставамі зброі ў краіны Сярэдняга Усходу, трэба ўзяць пад увагу пэрманэнтны ізраэльска-арабскі канфлікт, які ўсьцяж выліваецца ў збройныя пагранічныя сутычкі. Заходнія дзяржавы, якія мелі дагэтуль бесканкурэнцыйны палітычны манаполь на Сярэднім Усходзе, не давалі перарадзіцца гэтаму канфлікту ў запраўдную вайну тым, што захоўвалі раўнавагу сілаў між абодвымі варожымі бакамі. Яны дастаўлялі сваё аужжа Ізраэлю й арабскім краінам у вабмежаванай і больш менш роўнай колькасьці, што вы-


**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**


# Сьнежань — месяцам беларускае кніжкі

На працягу двух папярэдніх 1953 і 1954 гадоў мы абвяшчалі месяц ліпець месяцам беларускае кніжкі, і ў гэтым месяцы прадстаўнікі й прыхільнікі нашага Выдавецтва зьбіралі на падпісныя лісты ўва ўсіх краінах расьсяленьня беларускае эміграцыі складкі на выдавецкі фонд беларускае кніжкі Выдавецтва «Бацькаўшчыны». Практыка, аднак, паказала, што ліпень, які зьяўляецца ў бальшыні краінаў летнім месяцам адпачынку й урлёпаў, ня быў выгадным для гэтае акцыі. Улічваючы гэта, Выдавецтва «Бацькаўшчыны» сёлета месяцам беларускаае кніжкі абвяшчае **сьнежань** і гэткай практыкі будзе трымацца і ў будучыні.

У сувязі з гэтым у сьнежні нашыя прадстаўнікі й сымпатыкі будуць зьяўляцца із спэцыяльнымі падпіснымі лістамі на афіцыяльных блянках газэты «Бацькаўшчына» да нашых суродзічаў з просьбаю даць, у меру магчымасьцяў і добрае волі кажнага, адпаведную складку на выдавецкі фонд беларускае кніжкі.

Гэтыя складкі ня будуць ніякімі беззваротнымі ахвярамі, а толькі, як і ў папярэдніх гадох, **заплатай наперад** за беларускія кніжкі, якія дагэтуль выйшлі і будуть выдадзеныя ў будучыні Выдавецтвам «Бацькаўшчыны», выбраныя собсьнікам складкі поводля нармальнае цаны дадзенае кніжкі.

Выдавецтва «Бацькаўшчына» зьяўляецца сяньня адзінай выдавецкай установай, якая займаецца сыстэматычным выдаваньнем найлепшых твораў беларускае як клясычнае, гэтак і сучаснае эміграцыйнае літаратуры і, пачынаючы ад 1952 году, да гэтага часу выдала ўжо 8 наступных салідных кніжак: **1. «Новая Зямля» Якуба Коласа, 2. «Тутэйшыя» Янкі Купалы, 3. «Раськіданае Гняздо» Янкі Купалы, 4. «Запіскі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя, 5. «Нядоля Заблоцкіх» Лукаша Калюгі, 6. «Спадчына» — выбар паэзіі Янкі Купалы, 7. «Сымон Музыка» Якуба Коласа, 8. «Ля чужых берагоў» — альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў.**

Тры апошнія кніжкі, якія зьяўляюцца найбольш цэннымі спасярод выдадзеных дагэтуль, найпрыгажэй аформленыя й абыймаюць разам **1048 бачынаў** друку вялікага фармату, былі выдадзеныя ў бягучым 1955 годзе. Гэта паказвае, што бягучы год быў найбольш плодным у працы нашага Выдавецтва.

Але гэта яшчэ ня ўсё. Яшчэ да канца бягучага году выйдзе **зборнік мастацкае прозы Власта (Вацлава Ластоўскага)**, а ў наступным 1956 годзе Выдавецтва пляную, між іншым, выдаць нарыс **Юркі Віцьбіча «Плыве з пад Сьвятой Гары Нёман», аповесьць Якуба Коласа «У палескай глушы», выбраныя паэзіі Максіма Багдановіча, беларускія народныя казкі для дзяцей і вялікі зборнік твораў «узвышэнскіх» паэтаў** з нагоды прыпадаючай у наступным годзе 30-ай гадавіны Беларускага Літаратурнага Згуртаваньня «Ўзвышша».

Рэалізацыя гэтага вялікага пляну будзе залежыць ад дапамогі ўсяго нашага грамадзтва. А гэтая дапамога, як успаміналася, ня будзе выражацца ў безваротных ахвярах, а ў арганізаваным купляньні выдадзеных нашым Выдавецтвам кніжак.

Аб вялізарнай нацыянальнай ролі роднага друкаванага слова гаварыць ня прыходзіцца. Спасярод усіх іншых нацыянальных дзейнікаў роля мастацкае літаратуры на чужыне выключная. Яна зьвязвае нас духова з родным краем, дае нам сілу пeратрываньня, родзіць веру ў перамогу нашае справы. Ясна, напасьледак, зьяўляецца найлепшым спосабам прапаганды нашае нацыянальнае справы сярод чужых народаў.

Таму, абвяшчаючы чарговы месяц беларускае кніжкі, мы хочам верыць, што ўсе нашыя суродзічы чула адгукнуцца на нашую акцыю.

Сёлетні месяц беларускае кніжкі мы праводзім пад лёзунгам: **«Не павінна быць аніводнага Беларуса, у якога ня было-б усіх кнігаў Выдавецтва «Бацькаўшчыны»!**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

# Старыя грахі й сьвежая бязглузьдзіца

Днямі ў Жэнэве адзін ангельскі журналісты сказаў: «Другая жэнэўская канфэрэнцыя выявіць, якой небясьпечнай бязглузьдзіцай была першая...». Так, так, старыя грахі мсьцяцца. Як грэшная й няўстрыманая маладосьць на старасьці вылазіць праз бакі, суставы й паясьніцу, гэтаксама даўнейшыя грахі й сьвежая неразвага мусяць быць сплачаныя болем. А каталёг грахоў вялікі! Пачынаючы ад кастрычніцкага пучу, або лепш — ад гэтай сьмешнай бясхрыбетнай «інтэрвэнцыі», па сяньняшні дзень, у дачыненьнях да камунізму Захад выказаў столькі незразуменьня, ігнарапцыі, недалёкабачнасьці, апартунізму ды ўсіх іншых цяжкіх грахоў. Навет, калі Захад пачаў разумець усю небясьпеку камунізму — ён ня змог выкарыстаць усіх нагодаў і сваіх магчымасьцяў, каб гэтай небясьпекі пазбавіцца ды вызваліць ад яе сьвет.

Калі-б запытацца заходніх дыпляматаў, чаму якраз у **ліпені 55-га году** адбылася ў Жэнэве нарада кіраўнікоў чатырох дзржаваў — невядома, ці шмат на гэта адказала-б і ці адказ быў-бы дастаткова пераковаючым. Затое, каб мы з гэтым пытаньнем зьвярнуліся да Булганіна й Молатава, а яны захацелі быць шчырымі — яны змаглі-б даць нам адказ. А з гэтага адказу мы-б даведаліся, што крамлёўскія верхаводы дастаткова замацаваліся на пасьлясталінскім хвальварку, што маглі з упэўненай мінай круціць галовы заходнім дыпляматам, але яшчэ ня чуюцца зусім моцнымі, каб сьцебануць вольны сьвет калом па галаве. Да гэтага, савецкія дыктатары дайшлі да пераканаНьня, што, ня рызыкуючы атамнай вайной, яны могуць шмат дасягнуць, калі не дабіцца сваіх мэтаў.

Амаль усе заходнія палітыкі й публіцыстыя згаджаюцца, што ў Саветах адбываюцца перамены. Нажаль, прапарцыянальна яшчэ замала такіх, якія ўсьведамляюць, што гэтыя перамены зьяўляюцца для Захаду яшчэ большай пагрозай. Ведамы амэрыканскі палітык Джордж Кэнэн даводзіць, што «паталягічны й ірацыянальны характар савецкага рэжыму пасьля сьмерці Сталіна значна памякчэў». Згода, але ці гэта добра ці блага? Па адказ зьвернемся да ведамага амэрыканскага журналістага, якога слушна ўважаюць за экспэрта спраў Савецкага Саюзу, С. Олсона. Вось-жа Олсон адказвае Кэнэну: «„Новая“ савецкая палітыка ў дачыненьні да заходняга сьвету пазбылася сваіх ірацыянальных аспэктаў, што былі ёй нявыгодныя. Скончыць бязьмежна дурную сталінскую палітыку, было простым выяўленьнем здаровага глузду. Але ці здаровы розум Крэмля з'яўляецца дабрадзействам для Захаду? Ці-ж ня відавочна што разумная й рацыянальная савецкая палітыка нясе Захаду большую небясьпеку, чымся паталягічная й ірацыянальная?».

Трудна не згадзіцца з гэтым амэрыканскім журналістым. Новыя кіраўнікі Савецкага Саюзу адкінулі із свае замежнае палітыкі ўсё тое, што было ім нявыгадным, як паталягічнасьць і ірацыянальнасьць. Але лад і мэты засталіся тыя самыя ды, як вобразна сказаў Хрушчоў, «ня будуць зьмененыя, пакуль рак ня сьвісьне...».

У Жэнэве Булганін з Хрушчовам вельмі-ж прыемна ўсьміхаліся, а навет навучылі ўхмыляцца заўсёды надзьмутага Молатава. Але ад сваіх плянаў не адступілі ані на мілімэтр. І ў выніку правялі, што хацелі. Хоць яны ня студыявалі псыхалёгіі, аднак трапна вычулі псыхалягічнае настаўленьне сваіх заходніх партнэраў. Зрыў першай Жэнэўскай канфэрэнцыі быў-бы дамавінай надзеяў на славутнае суіснаваньне, за якія, быццам за саломінку, хапаліся заходнія палітыкі. Таму Булганін з Хрушчовам былі пэўныя, што Захад зробіць шмат, каб не дапусьціць да зрыву. Дый савецкія верхаводы тактоўна не жадалі зашмат. Яны толькі адмовіліся гутарыць на няпрыемныя для іх тэмы, як паняволеньне народаў Усходняй Эўропы, аб'еднаньне Нямеччыны на дэмакратычных прынцыпах ды камуністычная інфільтрацыя ў вольным сьвеце. Заходнія-ж палітыкі, адплачваючыся тактам за такт, не настойвалі на закраваньні гэтых балючых праблемаў. Гэтак, жэнэўская нарада сталася дыпляматычным пікнікам, поўным сонца, ухмылак і камплімэнтаў. І, як аб пікніку, можна-б было аб ёй забыцца, каб ня дзьве рэчы.

Першае — гэта тое, што Булганін з Хрушчовам не задаволіліся тым, што на пікніку не гаварылася прыкрых для камуністых рэчаў — яны застрахаваліся яшчэ, што й падчас канкрэтнай работы чатырох міністраў на «другой Жэнэве» гэтыя няпрыемныя пытаньні ня будуць парушацца.

Другое — гэта той «дух Жэнэвы», якім камуністыя зачадзілі лёгкадумных заходніх джэнтэльмэнаў. Закаджаныя гэтым «духам», заходнія дыпляматы нат не спасьцераглiся, калі за іхнымі плячыма крамлёўскія шаманы праціснуліся на Блізкі Ўсход і ў Паўночную Афрыку. Калі да гэтага далічыць, што ў міжчасе крамлёўскім верхаводам удалося зрабіць небясьпечны вылам у зьлепленым вялікім накладам часу й коштаў муры антыкамуністычных саюзаў і пактаў, аслабляючы Турэцка-Югаслаўска-Грэцкі Саюз, — можам ацаніць вынік першай Жэнэвы.

Цынічна-пэсымістычная думка ангельскага журналіста, што «другая жэнэўская канфэрэнцыя выявіць, якой небясьпечнай бязглузьдзіцай была першая», мае пэўнае абаснаваньне. Бачым, што над нарадай 4-х міністраў чорным груганом вісіць гэты няшчасны «дух Жэнэвы». Перадусім, Молатаў навет не хацеў дыскутаваць над парадкам дня, паклікаючыся на накінуты ў ліпені плян, зь якога вымецены ўсе нямілыя Маскве праблемы.

Далей, як нармальна й заўсёды, камуністычныя шаманы робяць з канфэрэнцыі трыбуну для свае прапаганды — Молатаў на лётнішчах і ў залі паседжаньняў, а ягоны падгалосак Ільічоў — у Палацы Прэсы, дзе ён склікае часта па дзьве прэсавыя канфэрэнцыі ў дзень. Там яны, з посьпехам ці бяз посьпеху, аднак наважана й упорыста ўбіваюць у галовы заходнім журналістым «дух Жэнэвы» made in Russia.

— Але які будзе вынік Жэнэвы? — можа запытацца нявытрыманы чытач. Сяньня, пасьля чатырох дзён нарадаў можна зарызыкаваць гіпатэзу. Таму, што заходнія міністры не адважацца канчальна сарваць перамоваў, а Молатаў ані думае пайсьці на кампраміс — цяперашняя нарада ня выйдзе за межы правізарычнасьці, а толькі будзе шукаць аргумэнтаў для камунікату, які-б гэтую правізарычнасьць замаскаваў. Вось-жа разумная прыказка кажа, што «няма нічога больш трывалага, чымся правізарычнае...».

Як заўсёды, так і цяпер паўтараем: дай, Божа, каб наш пэсымізм ня спраўдзіўся!...

Далей чытач можа запытацца: — Як-жа гэта доўга можа быць і трываць?..

Мы ня маем ніякіх амбіцыяў даваць рады моцным і вялікім гэтага сьвету, таму скромна адкажам нашаму чытачу: Так доўга, пакуль вольны сьвет не здабудзецца на канструктыўную ідэялёгію і не зачне яе наважана праводзіць у жыцьцё. А гэтай канструктыўнай ідэялёгіяй будзе наважаная воля змагацца за свободу, праўду і справядлівасьць **ува ўсім сьвеце,** а не за захаваньне абсурднага «статусу кво» — калі заходнія дыпляматы будуць гаварыць аб вызваленьні падбітых і калянізаваных народаў не на зьездах згуртаваньняў і кааперацыяў, але ў вочы Молатаву, Булганіну ці іншаму Хрушчову.

На гэтым месцы мы дазволім сабе на люксус быць аптымістымі і выказаць думку, што гэта можа прыйсьці. Крэмль узьлез на вельмі-ж балючы мазоль заходніх джэнтэльмэнаў. Яны-ж пакуль што робяць добрую міну пры благой гульні, але вычуваюць, што ня доўга змогуць сьцярпець. Калі ўлічым усе нахабствы камуністых, можам сабе пазволіць на аптымізм.

**пс**

# Мэмарыял
## Шкоцкае Лігі Эўрапэйскае Свабоды

Перад пачаткам канфэрэнцыі міністраў замежных справаў чатырох краёў у Жэнэве, «Шкоцкая Ліга» склала друкаваны мэмарыял на рукі Прэзыдэнта США, дзяржаўнага Сакратара Далеса, ангельскага Прэм'ера Ідэна ды ангельскага й францускага міністраў замежных спраў.

Насьветліваючы міжнароднае становішча, мэмарыял разглядае яго з пэрспэктывы апошніх дзесяцігодзьдзяў. Гаворачы аб палітыцы Ангельшчыны, мэмарыял кажа:

«Яна (Ангельшчына) мела непаўторную нагоду правядзеньня свае традыцыйнае палітыкі свабоды й бясьпечнасьці ў 1917-1918 годах, калі расейская імпэрыя распалася ў васобныя дяржавы, кажная зь якіх абнавіла свае даўнейшыя дэмакратычныя формы ўраду, зьнішчаныя калісь царамі. Але заміж праводжаньня свае традыцыйнае палітыкі, хоць і запэўніваючы дружбу і навет прызнаючы адноўленыя дзржавы, яна субсыд'явала беларасейскія арміі Дзянікіна й Врангеля... Гэтыя арміі, заміж змагацца з бальшавікамі, фактычна спрычыніліся да бальшавіцкіх перамогаў ды зьнішчылі незалежнасьць нядаўна адноўленых дзяржаваў».

Гаворачы аб сучасных заданьнях заходняе палітыкі, мэмарыял падкрэсьлівае:

«Паводля артыкулу 17 савецкае канстытуцыі, кажная рэспубліка Савецкага Саюзу зьяўляецца намінальна незалежнай і мае поўнае права аддзяліцца. Дзьве зь іх — Украіна й Беларусь — зьяўляюцца паўнапраўнымі сябрамі Аб'еднаных Нацыяў, хоць іхныя сучасныя ўрады зьяўляюцца марыянэткамі Масквы. Масква ня мае ніякае праўнае падставы перашкодзіць Захаду пачаць ідэялягічную вайну праз гэтыя, і з праўнага гледзішча на гэткай-жа роўні праз іншыя нерасейскія рэспублікі».

Мы можам толькі вітаць падобныя акцыі, скіраваныя ня толькі на абарону правоў паняволеных народаў, але й на папярэджаньне Захаду перад бальшавіцкаю небясьпекай, якая не зьмяншаецца, а ўсьцяж узрастае.

# Савецкі наступ на Сярэдні Усход

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

разная перавага аднаго з бакоў была немагчымая. Цяпер-жа, дзякуючы савецкім даставам зброі арабскім краінам, гэтая раўнавага захістаецца, а каб яе захаваць, Захад мусіў-бы павялічыць свае даставы Ізраэлю. Распачалася-б тады небясьпечная перагонка ўзбройваньня краінаў Сярэдняга Усходу, якая магла-б прывесьці да паўтарэньня ведамага экспэрымэнту з часоў дамашняй вайны ў Гішпаніі. У сувязі з гэтым напярэдадні цяперашняй Жэнэўскай канфэрэнцыі прыбыў у Парыж прэм'ер-міністар Ізраэля Шарэт, які зьвярнуўся да міністраў замежных справаў ЗША, Вялікабрытаніі й Францыі ў справе неабмежаванага прывозу апошнімі ў Ізраэль аружжа й загарантаваньня дзяржаўных граніцаў Ізраэля. З Парыжа прэм'ер Шарэт паехаў у Жэнэву, дзе мае спаткацца з Молатавам і папярэдзіць яго, калі-б дайшло да вайны між Ізраэлям і арабскімі дзяржавамі, дык адказнасьць за гэта падзе выключна на Савецкі Саюз.

Пры ўсім гэтым ня можа быць і мовы, каб Захад, дзеля новага кампрамісу з Саветамі й злагоджаньня напружаньня, мог пасьвяціць маленькую краіну Ізраэля, як гэта ён рабіў ня раз зь іншымі дзяржавамі. Гэтага ён зрабіць ня можа з гледзішча на тое, што на тэрыторыі Ізраэля знаходзяцца сільна разбудаваныя амэрыканскія вайсковыя базы, а так-жа паважна мусіць лічыцца з уплывовым голасам жыдоўскіх элемэнтаў на Захадзе. А толькі ў вадных Задзіночаных Штатах Амэрыкі знаходзіцца палавіна ўсіх Жыдоў сьвету.

**Глыбока абдуманая й старанна прыгатаваная акцыя Масквы**

Савецкая афэнзыва ў кірунку Сярэдняга Ўсходу была глыбока абдуманая, а ўся ейная стратэгія старанна прыгатаваная як на самым Сярэднім Усходзе, гэтак і на ягоных блізкіх і далёкіх пэрыфэрыях. У беспасярэдняй зь ёй сувязі знаходзіліся й знаходзяцца многія іншыя палітычныя выпадкі ў раёне міжземнаморскага басэйну, у якіх Саветы мачалі свае рукі.

Яшчэ паездка ў травені сёлета Булганіна й Хрушчова ў Белград з чалабітнай да Ціты мела аднэй з мэтаў атрымаць вольную дарогу цераз Югаславію да адзінай савецкай міжземнаморскай базы ў Альбаніі. На падставе гандлёвых і камунікацыйных дагавораў між Савецкім Саюзам і Югаславіяй, падпісаных сёлетнім летам у выніку белградзкай візыты, Саветы атрымалі права вольнага транзыту праз югаславянскія парты над Адрыятычным морам, а таксама права вольнага транзыту церазь Югаславію ў Альбанію. Усьлед за гэтым Саветы пачалі шыбка разбудоўваць сваю базу цяжкіх бамбавікоў у Дураццо ў Альбаніі, да якой раней ня прывязывалі ніякага значэньня. Альбанская база — гэта перадусім база матар'яльная для засіляньня нацыяналістычных рухаў ува ўсіх арабскіх краінах.

Другім важным выпадкам, які мае беспасярэднюю сувязь з падзеямі на Сярэднім Усходзе, зьяўляецца справа Цыпру. Гэты востраў, заселены ў чатырох пятых Грэкамі і ў ваднэй пятай Туркамі, які ад 3.000 гадоў да Грэцыі не належыў і яшчэ нядаўна належыць не імкнуўся, раптам зажадаў прылучэньня да Грэцыі і гэтыя жаданьні падмацаваў тэрарыстычнай акцыяй супраць Ангельцаў і Туркаў. Апрача гэтага, турэцка-грэцкі антаганізм моцна завастрыўся нядаўным пагромам Грэкаў у Істамбуле, у якім таксама мачалі свае рукі камуністыя. У выніку гэтага антаганізму й новага палітычнага курсу Ціты падпісаны 9 жніўня 1954 году Балканскі пакт між Югаславіяй, Грэцыяй і Турэччынай, які быў прадаўжэньнем Атлянтычнага пакту на гэтыя тэрыторыі, практычна астаўся бязвартасным ласкутом паперы, бо цяжка сабе ўявіць, каб у выпадку савецкай агрэсіі тры гэтыя дзяржавы салідарна выступілі супольным фронтам. Антыангельскія выступленьні цыпрыйскіх нацыяналістых на чале з архіяпіскапам Макарыёсам, як сталася ведамым, актыўна паддзержываюць мясцовыя камуністыя на загад маскоўскага камуністычнага цэнтру. Значыцца, і тут не адбылося бяз «братняе помачы» Масквы.

Вялікабрытанія, звольніўшы зону Суэзкага каналу ў Эгіпце, перакінула усе свае войскі на Цыпр, стварыўшы тут сваю моцную ваенную базу, як рэкампэнсату за страту суэзкіх базаў і адзіную ў усходнім раёне міжземнаморскага прастору. Вось чаму Цыпр мае такое важнае цяпер стратэгічнае значэньне ў вабароннай сыстэме Захаду. Эвэнтуальны выхад з Цыпру Ангельцаў, чаго станоўча дамагаюцца цыпрыйцы і што падтрымлівае Грэцыя, стварыў-бы ў гэтым раёне парожняе месца ў вабароннай заходняй сыстэме.

Трэйцім важным пляцдармам у кірунку апанаваньня Сярэдняга Усходу зьяўляецца француская паўночная Афрыка — Альжыр і Мароко. Нацыяналістычныя антыфранцускія рухі гэтых краінаў, якія дасягнулі цяпер фазы свайго найбольшага завастрэньня, знаходзяць выдатнае падтрыманьне з боку Саветаў. Аб гэтым сьветчыць ня толькі нядаўнае галасаваньне ўсяго савецкага блёку за разгляд справы Альжыру пленарнай сэсіяй Задзіночаных Нацыяў, ня толькі палітычнае падтрыманьне Саветамі гэтых рухаў, але й тое, што мараканскія й альжырскія Арабы ваююць цяпер мадэрным аружжам, якога раней ня мелі. Цяпер трэба спадзявацца, што нейкая часьць аружжа, дастаўляная Чэхаславаччынай Эгіпту, апынецца хутка ў руках паўночна-афрыканскіх паўстанцаў.

Для цэласьці абраза варта прыпомніць, што ў Мароко мае Амэрыка свае вялікія лётніцкія бызы, найлепш разбудаваныя й найсільнейшыя на цэлай заходняй паўкулі. Вось чаму трэба спадзявацца, што Саветы асабліва энэргічна будуць падтрымліваць Мароканцаў у іхным змаганьні з Французамі і што могуць тут паўстаць яшчэ большыя камплікацыі.

На фоне ўсіх гэтых падзеяў, няпрыемных і грозных для Захаду, Захад апошнім часам мог запісаць на сваё конта і адзін пабажны сукцэс. Гэта прыступленьне Ірану да абароннага Багдадзкага пакту, да якога належылі раней Турэччына, Ірак, Пакістан і Вялікабрытанія. Гэтым крокам Ірану моцна занепакоіўся Савецкі Саюз і пераслаў у Тэгэран войструю пратэстацыйную ноту. У ноце савецкі ўрад паклікаўся на свой трактат зь Іранам з 1921 году, які дазваляў Саветам увесьці свае войскі на іранскую тэрыторыю ў выпадку, калі-б адтуль загражала Саветам агрэсія. З пастановаў гэтага трактату Масква, аднак, сяньня скарыстаць ня думае, бо гэта магло-б стаца пачаткам новае сусьветнае вайны, якую Саветы ўважаюць для сябе яшчэ за передчасную.

**Нявыразныя пэрспэктывы Жэнэўскай канфэрэнцыі**

У такой вось атмасфэры пачалася 27 кастрычніка канфэрэнцыя міністраў замежных справаў чатырох вялікадзяржаў у Жэнэве. Выпадкі на Сярэднім Усходзе не прадугледжаныя парадкам дня гэтае канфэрэнцыі, але яны будуць галоўным пунктам закулісных гутарак і нарадаў ды будуць мець станоўчы ўплыў на нарады афіцыяльныя.

На парадку дня Жэнэўскай канфэрэнцыі стаяць тры пытаньні: 1. справа задзіночаньня Нямеччыны; 2. эўрапэйскі пакт узаемнай бясьпечнасьці і зьвязанае зь ім пытаньне раззбраеньняў; 3. справа зьбліжэньня Захаду з Усходам. Цэнтральным пытаньнем ёсьць справа Нямеччыны. У гэтым пытаньні адразу зарысаваліся дыямэтральныя супрацьлежнасьці, бо абодвы бакі выступілі з супярэчнымі адзін аднаму праектамі. Тры заходнія дзяржавы, скансалідаваныя цяпер супольнай загрозай на Сярэднім Усходзе, выступілі з праектам задзіночаньня Нямеччыны шляхам вольных выбароў у вабедзвюх ейных частках. Гэтае задзіночаньне, на іх думку, мусіць наступіць ужо ў 1956 годзе і быць уступнай перадумовай для заключэньня пакту ўзаемнай бясьпечнасьці. Пры гэтым, Захад прапануе Саветам рэкампэнсату ў форме ягоных гарантыяў супраць эвэнтуальнай савецкай агрэсіі. Плян Молатава, наадварот, прапануе спачатку заключэньне пакту ўзаемнае бясьпечнасьці, да якога мелі-б прыступіць Заходняя і Ўсходняя Нямеччына, як дзьве раўнапраўныя дзяржавы, а справу задзіночаньня адлажыць на пазьней і пакінуць яе на вырашэньне самога нямецкага народу, практычна — Заходнянямецкай Фэдэральнай Рэспублікі і г. зв. Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі. Пры гэтым Молатаў на канфэрэнцыі асьветчыў, што перадумовай такога задзіночаньня мусіць быць ня толькі неналежаньне задзіночанай Нямеччыны да Атлянтычнага пакту, але й тое, што ў ёй павінны астацца ненарушанымі «дэмакратычна-сацыяльныя дасягненьні» ўсходняй зоны Нямеччыны.

У ваблічча такіх кардынальных разыходжаньняў у нямецкім пытаньні і завостранай сытуацыі на Сярэднім Усходзе можна было-б прадбачваць тры розныя варыянты вынікаў цяперашняй канфэрэнцыі ў Жэнэве: 1. канец «жэнэўскага адпружаньня» й адкрыты паварот да халоднае вайны; 2. так як адзіным пазытыўным вынікам першай Жэнэўскай канфэрэнцыі было вызначэньне цяперашняй другой Жэнэўскай канфэрэнцыі, гэтак і вынікам гэтае канфэрэнцыі магло-б быць вызначэньне канфэрэнцыі трэйцяй, пры чым атмасфэра «жэнэўскай адлігі» мусіла-б значна ахаладзіцца; 3. дасягненьне нейкага частковага й сумлеўнае вартасьці паразуменьня коштам далейшых аднастароньніх уступак з боку Захаду. Сяньняшняя міжнародная сытуацыя, здавалася-б, гэты апошні варыянт мусіла-б выключаць. Але, як паказала практыка, Захад не заўсёды кіруецца цьвярозай лёгікай, таму й гэтая апошняя эвэнтуальнасьць можа мець месца. Гэта абазначала-б, што Захад зрабіў-бы яшчэ адзін крок на шляху да свайго самагубства.

А. К.

# Яшчэ аб беларускім Палесьсі

Украінскія нацыяналістыя з пад знаку бандэраўшчыны знайшлі апошнім часам новы аб'ект сваей «вэлыко-дэржавныцькой» акцыі — братнюю Беларусь. Гэтая акцыя праводзіцца зь не абы якім размахам. Галоўнымі правадырамі гэтае акцыі — украінскія бандэраўцы на чале з свэім часапісам у Канадзе «Гомін Украіны». Наагул Канада й ЗША сталіся цэнтрам гэтай падкопнай работы супраць Беларусаў, відаць, таму, што якраз у гэтых краінах згуртавалася бальшыня Беларусаў-паляшукоў на эміграцыі, якія зьяўляюцца канкрэтным довадам усей недарэчнасьці цьверджаньняў некаторых украінскіх «філялёгаў» аб украінскасьці Палесься.

Акцыя ўкраінскіх шавіністых не абмяжоўваецца пашквілямі на беларускі вызвольны рух на Палесьсі ў газэце «Гомін Украіны» ці дакладамі валыняка Сідорука, які, трапіўшы ў нашую Кобрыншчыну, удае зь сябе «паляшука» й вярзе ўсякія нябыліцы аб «украінскай» палескай гаворцы. Гэтая акцыя накіраваная шырэй! Аказваецца ў Вініпэгу (Канада) закладзены адумысловы асяродак, які мае распрацаваць усе патрэбныя «філялягічныя» й «гістарычныя» хвальсыфікаты, неабходныя дзеля абаснаваньня прэтэнсіяў амаль на адну трэйцюю частку Беларусі. Асяродак гэты далікатна названы Інстытутам досьледаў над валынскім мінулым, аднак фактычным ягоным заданьнем ёсьць «дасьледваньне» палескіх і паўночна-падляскіх земляў, якія твораць паўдзённыя акраіны Беларусі. У склад Інстытуту ўвайшло чатырох галічан ды двух, што ўдаюць зь сябе палескіх аўтахтонаў — успомнены Сідорчук і Одрач-Шоломіцкій. Гэты апошні, між іншым, стаўся Ўкраінцам толькі ў 1943 годзе, трапіўшы ў Ковэль на Валыні, дзе працаваў пры ўкраінскай газэце. Ён і ягоны бацька былі ведамыя, як зацятыя Расейцы. Пасьля ён быў сябрам «Стшэльца», хадзіў у рагатыўцы ды памагаў Палякам душыць праявы беларускага руху ў Піншчыне. За гэтыя заслугі, відаць, мог скончыць польскую гімназію і паступіць на ўнівэрсытэт. У 1939-41 г. паяўляецца ў Піншчыне ўзноў у ролі Расейца і настаўніка расейскай бальшавіцкай школы, а разам і бальшавіцкага прапагандыстага. З надыходам Немцаў уцякае разам з бальшавікамі і больш на Палесьсі не паяўляецца. Выплыў толькі ў 1943 годзе на Валыні, гэтым разам у ролі Ўкраінца.

Дабраўшы вось такую кампанію «дасьледнікаў» і «палескіх аўтахтонаў», Інстытут пачынае дзеіць. Аб адным выступе «дасьледніка» Одрача ў «Гоміне Ўкраіны», у якім ён вывяў тэзу, што беларускі рух таму разьвіўся на Палесьсі, што яму быццам памагалі Палякі, а ўкраінскага руху таму ня было, што яго Палякі перасьледвалі, — ужо ведаем. Калі «Бацькаўшчына» затаўравала гэтую брахню, дык «дасьледнікі» з «Гоміну Ўкраіны» хапіліся за адваротную тэзу. У новым пашквілі Одрача «Мы і Беларусы» ён гэтым разам ужо цьвердзіць, што беларускі рух на Палесьсі — гэта рух камуністычны й г. п.

Атакуючы «Беларускім шляхам» — часапіс Беларускай Нацыянальнай Рады ў Чыкаго, які ў вадказ на пашквіль па радыё Сідорука аб Палесьсі зазначыў, што ўсе шляхі на палескай зямлі абліты крывёй беларускіх жаўнераў у змаганьні з бальшавікамі, «Гомін Украіны» вуснамі таго-ж Одрача пасьмеў кінуць новую абразу беларускаму народу, цьвердзячы, што беларускія жаўнеры на Палесьсі — гэта выдумка. Цынізм гэтых шавіністых пераходзіць усякія меры. Яны-ж дасканала ведаюць аб беларускіх брыгадах генэрала Булак-Балаховіча, які дзеіў на ўсім Палесьсі й войскі якога, зложаныя з паляшукоў, здабылі Пінск, Лунінец і шмат іншых гарадоў на Палесьсі. Тут нам варта прыпомніць, як паляшукі сустрэлі ўкраінскія аддзелы атамана Пятлюры, калі тыя прабавалі занаць паўночную Сарненшчыну, дзе праходзіць мяжа між Беларусяй і Ўкраінай. Як ведама, паляшукі паўночнай Сарненшчыны, прагнаўшы бальшавікоў і спыніўшы польскія аддзелы, абвесьцілі г. зв. «Дубровіцкую рэспубліку» (на тэрыторыі Дубровіца ў Сарненшчыне). Карыстаючыся тым, што сялянскія аддзелы былі зьвязаныя баямі супраць польскіх легіёнаў над Прыпяцьцю, украінскія войскі прабавалі з заду напасьці на «Дубровіцкую Рэспубліку» і далучыць яе да Ўкраіны, ня гледзячы на ранейшую заяву Дубровіцкіх паляшукоў, што яны не Ўкраінцы і з Украінай нічога супольнага мець ня хочуць. Пасланы ўкраінскі аддзел быў сустрэнуты паляшукамі зброяю. Няпрошаныя госьці покінулі на межах Беларусі 17 забітымі і больш ужо не не прабавалі

(Заканчэньне на 3-ай бачыне)

**ЯКУБ КОЛАС**

3)

# У палескай глушы

Праехаўшы невялічкую грэбельку, калёсы пакаціліся па шырокай вуліцы. Народ расходзіўся з царквы. Старыя паляшукі, сустракаючыся, пачціва кланяліся, а чародкі маладых дзяўчат-паляшучак і праворных маладзіц, убраных, як макавыя кветкі ў вагародзе, падштурхвалі адна другую, перамігваліся й кідалі сьмяшлівыя погляды ў бок маладога настаўніка, які першы раз зьявіўся тут.

Пад'ехаўшы да школы, Лабановіч выскачыў з драбінак і ўзышоў на ганак. Дзьверы былі замкнуты. Лабановіч пастукаў. У глыбі кватэры зараз-жа грукнула крэсла, і пачуліся крокі. Дзьверы адчыніліся.

— Выбачайце. Дома настаўнік?

— Вот я. Заходзьце, калі ласка.

Лабановіч пайшоў за гаспадаром, нязграбна ступаючы занямеўшымі нагамі.

— Дазвольце пазнаёміцца: ваш калега і сусед — Лабановіч, — назваў сябе госьць.

— Саханюк, тутэйшы пэдагог. Будзьце ласкавы, здымайце пальто, сядайце.

Госьць і гаспадар селі каля стала.

— Вы — новы, і ў нашых краёх першы раз?

— Новасьпечаны, і ў вашых трушчобах маю гонар быць першы раз, — сказаў з усьмехам Лабановіч.

— Ну, як падабаецца вам ваша месца?

— Лепшага месца я і не чакаў: ціхае, глухое. Ніщто не пашкодзіць весьці працу, — прамовіў Лабановіч.

Саханюк звонка засьмяяўся.

— Ах вы, ідэялісты, ідэялісты. Ці надоўга хопіць вам гэтага ідэялізму?... І тым меней першы раз бачу чалавека, што так высока ставіць глуш ды яшчэ такую, як ваша.

— У вас тут, выбачайце, большая глуш.

— Як так? — зьдзівіўся Саханюк. — У нас — воласьць, грамада: бацюшка, пісар, фэльчар, ураднік, псаломшчык і так збоку людзі часьцей даведваюцца.

— І пэўне з Завітанак сюды хтось завітае, — жартліва ў тон гаспадару прамовіў Лабановіч і кінуў на яго бачлівы погляд.

Гаспадар крыху замяшаўся, бо і ён таксама меў ласае вока на дачку пана каморніка, адразу сьцяміўшы, куды цаляе яго сусед.

— А вы хіба былі ў Завітанках? — спытаў Саханюк.

— О, не, — прамовіў Лабановіч, — я лічу, што ў завітанскай чараўніцы і так вялікі штат кавалераў, і мая там прысутнасьць ніколечкі не павялічыць яе вагі.

— Калі ў вас, калега, такі погляд на рэчы, — сказаў павесялеўшы Саханюк, — скажу вам: ня будзеце і вы мець вагі ў тутэйшых паненак.

— А мне ўсё роўна... Урэшце-ж, ці не памыляецеся вы тут, калега? Але гэта — між іншым. Я хацеў-бы прасіць вас, калега, пазнаёміць мяне з вашай грамадою, бо трэба-ж, як кажуць, аддаць кесарава кесараві. Калі-б вы былі ласкавы пайсьці зы мною да пісара, таксама і да бацюшкі, а можа, і яшчэ да каго, калі ўжо гэтага вымагае звычай вашай грамады, то я быў-бы вам вельмі падзячан. Гэта было-б і скарэй і прасьцей, бо мне яшчэ ніколі не даводзілася выступаць у ролі візытанта.

— А вы чаго-ж так сьпяшаецеся? Разумеецца, я з вамі пайду, тым болей, што і мне трэба зайсьці да таго-другога, але адаслалі-б вы сваю падводу дамоў, а самі тут паначавалі-б.

— Не, калега, Я яшчэ да роботы ня прыступаў у школе. Вы, пэўна, ужо многа пасьпелі, і я не даганю вас за ўсю зіму. Мне хацелася-б і павучыцца ў вас сяму-таму, бо вы ўжо набілі, як кажуць, руку і маеце практыку.

Дзьверы з другога пакоіка адчыніліся, і на парозе паказалася ўжо немаладая кабеціна. Гэта была старожка. Яна перш уважліва паглядзела на незнаёмага настаўніка, а потым сказала свайму настаўніку паляшуцкай гаворкай:

— Да вас, панычу, там маладыцы прышлы — лыст напысаць хочуць.

— А сала прынесьлі?

— Ны відаю, панычыку.

— Выбачайце, — сказаў Саханюк да госьця: — Я пайду адпраўлю гэтых маладзіц.

І Саханюк накіраваўся ў кухню. Старожка Матрона, яшчэ раз агледзеўшы госьця, таксама пайшла туды. Ясна, хтось даў ёй наказ, як можна лепей разглядзець Лабановіча, каб навесьці аб ім сталыя даведкі. І, як відаць, наказ гэты быў дадзены ня так здалёку, бо, счакаўшы хвіліны дзьве, Матрона матнулася праз вуліцу, маючы кірунак да кватэры пісара.

Застаўшыся адзін, Лабановіч акінуў вокам пакоік свайго калегі. Кватэра гэта была многа лэпшая ад яго кватэры. Было відаць, што Саханюк жыў някепска, праседзеўшы ў гэтай школе гадоў пяць. І наогул, Саханюк быў чалавек практычнага складу. Нейкім чынам умудрыўся ён за гэтыя пяць год, атрымліваючы дваццаць рублёў пэнсіі на мэсяц, сабраць капітал у пяць-шэсьць соцень і меў сваю гаспадарку. «Жылаваты чалавек ты, браце! падумаў Лабановіч: Навет за напісаньне ліста не саромеешся браць сала». На століку ляжалі школьныя журналы. Разгледзеўшы іх, Лабановіч прышоў да заключэньня, што яго калега ня так далёка адышоўся з вучнямі, і пераканаўся, што ў васобе Саханюка ён ня будзе мець для сябе настаўніка, і тут-жа зазначыў, што супольнага між імі вельмі мала і што блізкімі сябрамі яны ніколі ня будуць.

— Ну, цяпер я вольны, можам ісьці, — сказаў увайшоўшы Саханюк і падышоў да люстэрка, паглядзеўся, падправіў рыжаватыя вусы, правёў рукой па шчоках, ці добра пабрыты, і прычапіў больш франтаваты гальштук. Саханюк быў хлопец сухарлявы, досыць высокага росту, меў даволі прыгожы твар, але малавыразныя, жаўтавата-карыя вочы яго крыху псавалі. Таксама была ў яго яшчэ адна загана,загана вымаўленьня: ён ня мог скзаць чыста «р», а нейк скрадваў яго і казаў «й».

— Ты, Мат'ёна, калі я не п'іду, астаў абед на вячэю.

Настаўнікі вышлі.

— Куды наўперад пойдзем?

— А давайце пачнем па парадку, каб нікому ня было крыўдна, — адказаў Лабановіч.

Зрабіўшы колькі крокаў, Лабановіч і Саханюк узышлі на ганак валаснога праўленьня.

— Зойдзем да канцылярыі, — сказаў Лабановіч: Заадно трэба ўзяць паперы і ўсе вучэбныя прылады.

Настаўнікі пераступілі парог і апынуліся на зборнай. Зборная была прасторная, як абора. На процілежным яе канцы, на ўзвышшы, адгароджаным балясамі, стаяў вялізны стол, абіты зялёным сукном, а за сталом, на шырокім крэсьле засядаў сам пісар. Гэта быў ужо стары чалавек, з шырокай барадой, напалавіну сівою. Міна яго была нязвычайна важная. Пазіраў ён крыху прыжмурыўшыся, як-бы ён толькі што занюхаў табакі і зьбіраўся чхнуць. Нягледзячы на тое, што ў канцылярыі было цёпла, пісар сядзеў у валёнках, бо меў у нагах раматус, і на твары яго адбіваліся адзнакі хваравітасьці і сьляды калісь вясёлага жыцьця й п'янства, у якіх пісар ня меў сабе роўных у воласьці. З гарэлкай ён ніколі не разлучаўся. У канцылярыі, у шафе сярод «гражданских и уголовных дел», стаяла бутэлька з «царскімі сьлязьмі», як называлі тады гарэлку, да якой часта прыкладаўся Пятро Восіпавіч і ў часы сваіх заняткаў у воласьці. Праўда, такіх часоў у яго было ня так-та многа, і ён прыходзіў сюды ў выпадках рэдкіх і важных; усю-ж работу па воласьці вёў яго памочнік, Дубейка, які ўжо лічыўся кандыдатам на пісарскую пасаду. З гэтай прычыны Дубейка нёс сябе высока, насіў манішку й манкеты і лічыў сябе найпершым кавалерам; старанна прычэсаныя валасы і частае зазіраньне ў люстэрка сьветчылі аб тым, што і ў яго сэрцы засела завітанская паненка.

# Беларускія кніжкі

**Выдавецтва „Бацькаўшчыны“**

**ЯКУБ КОЛАС**
## Новая Зямля
**Паэма**
**зь вялікім і грунтоўным крытычным артыкулам Р. СКЛЮТА.**
**Балонаў 246+XXXII.**
**Цана 3 амэр. даляры.**

**ЯНКА КУПАЛА**
## Тутэйшыя
**П'еса ў чатырох дзеях з крытычным артыкулам Р. СКЛЮТА.**
**Балонаў 83.**
**Цана 1,30 амэр. даляраў.**

**ЯНКА КУПАЛА**
## Расьціданае гняздо
**Драма ў пяцёх актах з крытычным артыкулам Р. СКЛЮТА.**
**Балонаў 58+XV.**
**Цана 1 амэр. даляр.**

**АНДРЭЙ МРЫЙ**
## Запіскі Самсона Самасуя
**Сатырычная аповесьць з крытычным артыкулам Р. СКЛЮТА.**
**Балонаў 88.**
**Цана 1 амэр. даляр.**

**ЛУКАШ КАЛЮГА**
## Нядоля Заблоцкіх
**Аповесьць зь вялікім крытычным артыкулам Р. СКЛЮТА.**
**Цана 1,50 амэр. даляраў.**

**ЯНКА КУПАЛА**
## Спадчына
**Выбар паэзіі зь вялікім крытычным артыкулам СТ. СТАНКЕВІЧА**
**Балонаў 564**
**Цана 7, 9 або 11 даляраў (залежна ад вокладкі й паперы)**

**ЯКУБ КОЛАС**
## Сымон Музыка
Паэма з крытычнымі артыкуламі
**Р. СКЛЮТА і А. БАБАРЭКІ**
**Балонаў 246**
**Цана 3 даляры**

## Ля чужых берагоў
**Альманах твораў эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў з уступным артыкулам СТ. СТАНКЕВІЧА**
**Балонаў 238**
**Цана 3 даляры.**

## Партрэт Янкі Купалы
**Разьмер 30×20 см**
**Цана 50 цэнтаў**

**У краінах, паза Задзіночанымі Штатамі Амэрыкі й Канадай, цана ў мясцовай валюце, раўнавартаснай выжэй пададзенай цане ў амэрыканскіх далярах.**

**Выпісваць можна: непасрэдна з Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» і з нашых Прадстаўніцтваў у паасобных краінах.**

### ДА ЎВАГІ НАШЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ

Адрасуючы карэспандэнцыю на нашае выдавецтва, просім дабаўляць да слова «Мюнхэн» лік «19» (19-ы паштамп у Мюнхэне), бо йнакш лісты блудзяць па вакольных дарогах.

**Рэд. і Адм. «Б-ны»**

# Дзень Беларускае Касы Самапомачы ў Торонто

20 кастрычніка сёлета быў днём касаў самапомачы (крэдыт юньён) у правінцыі Онтарыё. Беларуская Каса Самапомачы пры Згуртаваньні Беларусаў у Канадзе наважыла адзначыць гэты дзень у сыботу 22 кастрычніка.

У Беларускім Доме на Дандэс вэст вуліцы нр. 1000 сабраліся ўвечар сябры Касы Самапомачы. Акрамя сяброў Касы, былі прысутныя й шматлікія Беларусы, зацікаўленыя працаю й разьвіцьцём Касы. Старшыня дырэкторыі Касы сп. В. К-ч адкрыў вечар і перадаў слова для прынагоднага рэфэрату сп-ру мгр-у А. Грыцуку, сябру Крэдытовага Камітэту. Прэлегэнт перш за ўсё коратка затрымаўся над гісторыяй касаў самапомачы наагул, і ў Канадзе ў прыватнасьці. Ён адцеміў, што касы самапомачы, якія пабудаваны на каапэратыўных асновах, маюць у Канадзе вельмі добры грунт для разьвіцьця. Кажная зь іх зацьвярджваецца правінцыянальным урадам, мае свой статут і ўся ейная дзейнасьць, у вадрозьненьне ад банкаў і гандлёвых прадпрыемстваў, кіруецца сябрамі. Кажная зь іх апіраецца на нейкую іншую арганізацыю. Беларуская Каса Самапомачы, у дадзеным выпадку, апіраецца на сяброў Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе. Каса самапомачы мае права закладаць і апэраваць гандлёвымі прадпрыемствамі таксама на каапэратыўных асновах. Сама каса зьяўляецца ашчаджвальнай і перадусім пазычкавай інстытуцыяй, дзе пазычку можа дастаць кажны ейны сябра на шмат выгаднейшых умовах, чымся ў банку.

Колькі фактаў зь гісторыі Касы Самапомачы пры ЗБК. Заложана яна ўвосень 1953 г. З самага пачатку ў Касу запісалася 19 сяброў. Мінімальнай уступнай складкай быў пай у вышыні 5 даляраў. Пачаткавы капітал Касы выносіў панад 100 даляраў. На працягу двух год ейнага існаваньня некаторыя сябры адпалі, як звычайна бывае ў кажнай арганізацыі. На іхнае месца прыйшлі новыя, і сяньня лік сяброў падвоіўся. Трэба адзначыць цікавы факт, што прырост сяброў адбыўся без найменшых стараньняў з боку ўправы Касы. Характар супалкі звычайна абумоўліваецца гаспадарскімі абставінамі, у якіх яна існуе. Дзеля таго, кажны Беларус, які патрабуе дапамогі ці то пры куплі дому, аўта, мэбляў, фармы ці ў нешчасьлівых выпадках, у Беларускай Касе Самапомачы знойдзе найлепшых сваіх сяброў, што кажнай хвіліны дапамогуць яму. З другога боку, тыя сябры, якія складаюць у Касе свае ашчаднасьці, цьвёрда ўпэўненыя, што грошы іхныя знаходзяцца ў руках сумленных і адказных людзей, няздольных на ніякія круцельствы, ды якія на першым пляне свае працы ставяць гаспадарскі й маральны дабрабыт мясцовага беларускага грамадзтва. Акрамя гэтага, усе ўклады ў Касу забясьпечаны Нацыянальнай Асацыяцыяй Крэдытовых Таварыстваў, што апэруе ў Канадзе й ЗША. Беларуская Каса Самапомачы зьяўляецца сябрам Лігі Крэдытовых Таварыстваў (Юньён-аў) у Онтарыё, і ў выпадку, калі патрабуе грошы, каб пазычыць сваім сябром, можа пазычыць іх у Крэдытовай Асацыяцыі ў Онтарыё на нізкі працэнт. На гэтым капітале Каса Самапомачы таксама зарабляе.

За час двух гадоў існаваньня Беларуская Каса Самапомачы зрабіла на 16.000 даляраў абароту. Бяручы на ўвагу малую колькасьць сяброў, трэба заўважыць, што гэта быў абарот вельмі вялікі. Сябром Касы было за гэты час дадзена 26 пазычак на розныя сумы. Шматлікія зь іх сягалі да 1000 даляраў. Параўнаўшы працэнты, якія даўжнікі мусілі-б плаціць, калі-б карысталіся мясцовымі банкамі, з працэнтамі, якія яны заплацілі нашай Касе, выявілася, што гэткім чынам сябры Беларускае Касы Самапомачы затрымалі ў сваіх руках 690 даляраў. Гэтая сума найлепш сьветчыць аб карысьці належаньня да свае касы. Гэтым фактам тлумачыцца й сталы рост Касы. Мясцовыя Беларусы ўжо добра ведаюць, што Беларуская Каса Самапомачы пры ЗБК — гэта іхная асноўная гаспадарская арганізацыя, якую яны, дзеля сваіх собскіх карысьцяў, павінны падтрымліваць і разбудоўваць. Яны спадзяюцца таксама, што Беларусы зь іншых згуртаваных асяродкаў у Канадзе пойдуць за іхным прыкладам і на мясцох заложаць свае касы самапомачы. Бо трэба тут зацеміць, што дзейнасьць Касы Самапомачы пры ЗБК ў Торонто абмежавана статутам касаў правінцыі Онтарыё толькі да самога места й ягоных прадмесьцяў. Такім чынам, калі-б, прыкладам, нейкі сябра ЗБК з Садбуры захацеў пазычыць грошы з нашае Касы ў Торонто, дык такая пазыка супярэчыла-б статуту касаў самапомачы правінцыі Онтарыё. Калі-б, прыкладам, аддзел ЗБК у Садбуры залажыў сваю касу самапомачы, то мог-бы абслугоўваць толькі сяброў касы з Садбуры.

Аднагадзінны рэфэрат сп-ра мг-ра А. Грыцука быў перапоўнены вышэйуспомненымі ды іншымі цікавымі фактамі. Прысутныя сябры выслухалі яго зь вялікім зацікаўленьнем. Пасьля дакладу ў сьвятліцы Беларускага Дому адбыліся танцы пад патэфонныя пліткі. Даход з буфэту пойдзе на пакрыцьцё аплаты пакою ў Доме, дзе знаходзіцца Каса Самапомачы. Падаецца тут да ведама тых Беларусаў, якія зацікаўлены Беларускай Касай Самапомачы, што скарбнік Касы, сп. Чыркун, або сакратар сп. Чорны ўрадуюць у Доме кажную нядзелю ад гадз. 6 да 9 увечары. Можна зь імі паразумецца й тэлефанічна. Нумар тэлефону наступны: Oliver 6873.

**Сябра Касы**

### АСАБІСТАЕ

Беларус у Канадзе хацеў-бы пазнаёміцца зь дзяўчынай або жанчынай да 33 год — Беларускай, Украінкай ці Расейкай — з мэтай жанімства. У гэтай справе просіцца зварочвацца на адрас «Бацькаўшчыны».

# „Вечар нацыянальнасьцяў“ у Ольдэнбургу

У сераду 26 кастрычніка г.г. ІМКА зарганізавала вялікі вечар-канцэрт, у якім узялі ўдзел прадстаўнікі тых нацыянальнасьцяў, што жывуць на тэрыторыі Лянд Ольдэнбург, рэпрэзэнтуючы музычнае й танцавальнае мастацтва сваіх народаў. Акрамя эмігрантаў — Беларусаў, Латышоў, Летувісаў, Палякоў, Расейцаў ды Эстонцаў — у вечары прыймалі таксама ўдзел Немцы й Ангельцы.

Адна з найлепшых і найбольшых канцэртных заляў у месьце была поўная па берагі. На вечары прысутнічалі прадстаўнікі нямецкага ўраду, якія ў сваіх прамовах выказвалі захапленьне мастацтвам «безьдзяржаўных чужынцаў». Пры гэтай нагодзе яны запэўнівалі, што чужынцы ня мусяць баяцца ніякага ціску з боку нямецкага ўраду, бо правы палітычных уцекачоў ахоўваюцца асноўнымі законамі Нямецкае Фэдэральнае Рэспублікі.

Хоць у Лянд Ольдэнбург Беларусаў бадай няма, мы ўсё-ж былі годна рэпрэзэнтаваныя ведамым кампазытарам і піяністым А. Карповічам. Ён выканаў на піяніне свой твор «Полька Янка» (на тэму беларускай народнай песьні пад гэткім-жа назовам). Ягоны другі твор на йскрыпку — «Вячорная Песьня» — быў выкананы скрыпачом Латышом.

Гэта была першая — і вельмі ўдалая — рэпрэзэнтацыя беларускага мастацтва ў Ольдэнбургу.

**А.**

# 1945–1955

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

Тым, хто зьбіраецца хавацца ад такое прапановы пад «адсутнасьць магчымасьцяў друку», адкажам, што, папершае: «не тады сабак карміць, як на паляваньне йсьці»; а падругое, не памылімся хіба, калі скажам, што, прыкладам, «Бацькаўшчына» (а мо й «Конадні», і «Божым Шляхам», і яшчэ мо сёй-той) ўжо згадзілася-б зьмяшчаць на сваіх балонах (як гэта зрабіла калісьці з нарысам »Да гісторыі Беларусаў у Аргэнтыне«) кароткія дакумэнтальныя нарысы з нашай нядаўнай мінуласьці; патрэйцяе-ж, ня выключана эвэнтуальнасьць, што надарыцца непрадбачаная магчымасьць публікацыі такога роду прац. Прыкладам, яшчэ зусім нядаўна ня было-б дзе публікаваць тых каштоўных рэчаў, якія падае цяпер у друкаваным выглядзе празь «Беларускія Зборнікі» беларуская Калегія Інстытуту для Вывучэньня СССР. Дык чаму-ж ужо аж так занядбоўваць эміграцыйную тэматыку, каб асуджаць на поўнае забыцьцё й нябыцьцё частку саміх сябе?

**Я. Запруднік**

# Ліст у Рэдакцыю

Вельміпаважаныя Спадары!

Учора я атрымаў пачку, на каторую ўжо чакаў вельмі даўно. У ёй была кніжка Янкі Купалы «Спадчына». Мушу прызнацца, што я дык ужо пачынаў ня верыць, ці яна наагул вышла. Ажно ўчора такое сьвята! А хачу Вам сказаць, што запраўды было для мяне сьвята, і навет больш. Хто жыве ў беларускай грамадзе, ці хто мае па-суседзку сваіх суродзічаў, дык той можа не паверыць, што значыць мець беларускую кніжку. А я-ж жыву тут адзін сярод чужых і беларуская кніжка, а асабліва вершы, гэта для мяне ўсё.

Я ўчора ня мог заснуць і чытаў «Спадчыну» аж да раніцы. Шмат вершаў Купалы я знаю напамяць яшчэ з школы. Але й гэтыя я яшчэ раз прачытаў. Я помню ў «Бацькаўшчыне» пісалася, што «Спадчына» Купалы для нас — гэта нацыянальнае Эвангельле. Праўдзіва было сказана. Сяньня на чужыне, чытаючы вершы нашага нацыянальнага Прарока, чалавек пачынае нанава аджываць і тады ня страшна ні чужына, ні адзіноцтва й верыцца, што мы ўсё гэта перажывем і пабачым яшчэ вольную Беларусь.

Я спадзяюся таксама хутка атрымаць далейшыя кніжкі «Бацькаўшчыны»: «Сымона Музыку» і альманах эміграцыйных пісьменьнікаў, аб якіх пісала «Бацькаўшчына». Хоць гэта не мая справа, але мне здаецца, што калі-б былі магчымасьці, дык трэба было-б выдаць таксама вершы Максіма Багдановіча, бо іх на эміграцыі ня сустракаецца.

Дзякую Вам за прысланую «Спадчыну» і застаюся з глыбокай пашанай.

**Я. Н. (Карльсруэ).**

# Па лягерах і асельлях

Інгольштадт, гэта старое нямецкае места, былая цытадэля, што разьлеглася па абодвых бакох «сіняга Дунаю». Пасьля шумлівага Мюнхэну гэта праўдзівы супачынак для растрэсеных нэрваў. Вось у гэтым месьце жыве даволі вялікая колькасьць былых ДэПі; частка зь іх — у так званым «рэгірунгслягеры», што разьмешчаны ў паўночнай частцы места. У Фрыдэнсказэрнэ галоўнае кіраўніцтва лягеру. Кіраўнік лягеру сп. Штэмэр прыняў мяне вельмі ветліва. Навет разам зы мною наведаў колькі пакояў. Аздінокія жывуць у вялікіх залях, а сем'і па меншых пакоях. Усюды чыста, прыбрана, хоць ложкі ў бальшыні панакрываны нечым, што калісьці звалася коўдрай, а цяпер сталася нейкім сітам.

У лягеры жывуць пераважна хворыя й старыя, што не змаглі выэміграваць у іншыя краіны. Трапляюцца навет гэткія выпадкі, што адзін з сужэнства жыве за мяжою, а другі, з прычыны хваробы, мусіць надалей чакаць у Нямеччыне. Настрой у людзей прыгнечаны. За пару марак, што дастаюць ад нямецкіх уладаў, можна толькі ледзь-ледзь пражыць. Аб куплі адзеньня нельга й гутарыць. Бальшыня людзей ходзіць у куртатых амэрыканскіх пінджакох, якія сяды-тады атрымоўваюць ад дабрадзейных арганізацыяў. Працу атрымаць цяжка. Пераважна пасылаюць на земляныя работы, якіх людзі з надарваным здароўем выконваць ня могуць, а па некалькіх дзён працы йдуць ізноў у шпіталь.

Далей, на так званым Эгзэрцырпляцы знаходзіцца новае асельле, пабудаванае ў 1951 годзе. Тут людзі жывуць ужо крыху лепш. Бальшыня зь іх мае працу. Найгорш аднак прыходзіцца тым, якія атрымоўваюць толькі дапамогу, як беспрацоўныя. Яны амаль палову таго, што дастаюць, мусяць аддаць за кватэру.

У васьмі кілямэтрах ад Інгольштату, сярод палёў, стаіць асельле Дэшынг. Гэта старыя ахвіцэрскія кватэры, што належалі раней да хвабрыкі амуніцыі. Тут 23 аднакватэрныя будынкі, вельмі няпрыдатныя на лягер. Цяпер вось, паводля новае ацэнкі, гэтыя кватэры выходзяць шмат даражэй, як, прыкладам, у Мюнхэне, бо ў іх вялікія калідоры, што ацэньваюцца столькі сама, як і жылыя пакоі. На пратэст супраць гэткага падыходу да расцэнкі кватэр, мне паабяцалі палагодзіць гэтую справу.

У Інгольштаце й Дэшынгу жыве каля 40 асоб Беларусаў.

**Падарожны**

### АБВЕСТКА

Гэтым паведамляецца, што ў сувязі з зьліквідаваньнем «Рысэрч Програм» цяпер кнігу У. Сядуры «Беларускі тэатр і драма» можна заказаць паводля адрасу:

Frederick A. Praeger Inc.
Publishers
150 East 52nd Street,
New York 22, N. Y., USA

Пры перасыланьні паштовых пераказаў на суму 6 даляраў трэба абавязкова падаваць дакладны назоў кнігі паангельску:

THE BYELORUSSIAN THEATER AND DRAMA
by
Vladimir Seduro

У сувязі з тым, што тыраж выданьня абмежаны і ўжо ў значнай ступені вычарпаны, трэба пасьпяшацца заказаць гэтую, вылучна вартасную для рэпрэзэнтацыі нашае культуры ў вольным сьвеце, кнігу.

### ПОШУКІ

**Янка Лукашэвіч** шукае сваіх бацькоў **Пятра** й **Ганну,** братоў **Паўла** й **Аляксея,** сёстраў **Кацю** й **Любу Лукашэвічаў** зь вёскі Красная Воля, воласьць Лахва, павет Лунінец. Шуканыя, паводля апошніх вестак, жылі ў Бэрліне ў 1945 г.

Пісаць просіцца на адрас:

Mr. Janka Lukaszevicz
2444 W. 5th St.,
Cleveland 13, Ohio, USA.

Капітана **Пятрова,** які быў ад 1942 г. да 1944 г. у «Командо Мінск» (генэрал Шпэрлінг), шукаюць маёр **Трахт** і старэйшы лейтэнант **Г. Кэмп.**

Пісаць просіцца на адрас «Б-ны».

# Да тых, што пашыраюць праўду пра Беларусь

Тыя, што пашыраюць праўду пра Беларусь і беларускі народ - а кажны беларускі эмігрант мае гэта рабіць - патрабуюць мець дзеля гэтага матарыял, літаратуру. Такім матарыялам у ладнай меры можа служыць часапіс «Веда» (вышла 28 нумароў) і адбіткі зь «Веды». Матарыялам у мове беларускай можа быць кажны нумар «Веды». Дзеля таго гэтта пералічым матарыял у мове ангельскай.

У Но. 2-5 «Веды» ёсьць шырокае рэзюмэ ў ангельскай мове начырку гісторыі Беларусі.

У Но. 4 ёсьць даволі шырокае рэзюмэ паангельску артыкулу Куліковіча пра беларускую песьню.

У Но. 16-17 ёсьць добрае ангельскае рэзюмэ пра рэлігійныя дачыненьні ў Беларусі ў XIX стагодзьдзі.

З адбіткаў із «Веды» ёсьць шырокае рэзюмэ паангельску ў кніжцы «Доля мовы беларускае (яе вонкашняя гісторыя) ў розныя пэрыяды гісторыі Беларусі» і

2) цэлая кніжыца паангельску „Ethnographical and Historical Territories and Boundaries of Whiteruthenia“ зь гістарычнай і этнаграфічнай мапаю Беларусі. У беларускім выданьні гэтае кніжыцы пра этнаграфічныя граніцы сказана трохі шырэй.

Тым, што пашыраюць праўду пра Беларусь, Крывіцкае Навуковае Таварыства Пр. Скарыны прадае «Веду» і іншыя свае выданьні за паўцаны, а пры куплі большай колькасьці і танней. Зварочавацца трэба на адрас:

The Fr.Skoryna Kryvian Society of Arts and Sciences in the U. S. A., Inc., 6 Vandervoort Place, Brooklyn 37, N. Y. U. S. A.





**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі.**

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd, London, S. W. 6.
**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.
**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia** 25 Belmont P. de Mount Colah, N. S. W.
**Mr. Donat Jackiewich,** 33 Hope St. Spotswood-Melbourne, Vict.
**Mr. A. Moroz,** 109 Morrison Rd, Midland Junction, Western Australia.
**БРАЗЫЛІЯ:**
**C. Cimafiejcyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.
**БЭЛЬГІЯ:**
**Mr. Vasil Sčećka,** 19, Place Hoover, Louvain.
**ДАНІЯ:**
**J. Lobejko,** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv., Kobenhavn S.
**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mr. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinois.
**Mr. B. Danilovich,** 112 Somerset St. New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 1020 Kenilworth Ave, Cleveland 13, Ohio.
**КАНАДА:**
**Miss L. Wierny,** 57 Riverdale Ave, Toronto, Ont.
**НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88 Hercules Drayve, Roxburg — Hydro.
**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. V. Mickievič,** 47, Bd de Bezons Sartrouville (S. et O.).
**Mr. Bonifacy Prytycki,** 17, Rue Roger Salengro, Lys les Lannoy (Nord).
**ШВЭЦЫЯ:**
**Basil Lukaszyk,** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.